**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 41 (757) 9 кастрычніка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



У мінулую суботу ў Глыбокім прайшло спатканне“Мы разам”, якое было арганізавана Глыбоцкай суполкай каталіцкага таварыства “Caritas” пры парафіі Святой Тройцы і падтрымцы мясцовых раённых уладаў. *Фота Марыны Сінкевіч.*



## Запрашае “Кроха”

ДУА “Яслі-сад №5 г. Глыбокае” праводзіць набор у групу ранняга развіцця “Кроха”

Кантактныя тэлефоны: 2-49-99; мтс: 8 (029) 713-63-11.

Пастаўскі раён

# Пасля свята змрочныя будні

■ Станіслаў Раманчук

**На падрыхтоўку і правядзенне чарговых абласных "Дажынак-2014" было патрачана звыш 70 млн. долараў (700 млрд. рублёў), што дала падставу злым языкам назваць гэта "пірам падчас чумы".**

Справа ў тым, што даволі шмат гаспадарак у вобласці ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі, балансуюць на мяжы выжывання. Не пазбегнуў гэтых праблем і буйны Пастаўскі раён, дэлегацыя якога таксама была прадстаўлена на свяце працаўнікоў вёскі ў Гарадку. Пасля вяртання дамоў высветлілася, што палова мясцовых калгасаў не маюць сродкаў на тое, каб выплаціць сваім работнікам зарплату за працу ў жніўні. Толькі тры мясцовыя гаспадаркі развіваюцца, упэўнена сябе адчуваюць, а астатнія даўно практычна банкроты. У выніку з пачатку года ніводнага рубля не заплацілі за спажытую электраэнергію сельгаспрадпрыемствы "Блакітныя азёры", "Андроны", "Вярэнькі-агра". З-за падазрэння на АЧС зарэзалі практычна ўсіх свіней на свінакомплексах буйных гаспадарак "Камайскі-агра" і "Дунілавічы-агра". У іх таксама вялізныя даўгі перад энергетыкамі, адпаведна каля 5 і 2 млрд. рублёў. Ды і астатнія гаспадаркі краю проста не ведаюць, як будуць жыць далей, настолькі шмат праблем без дзяржпадтрымкі. Акрамя разлікаў за электрычнасць адстаючыя гаракалгасы не плоцяць падаткі, не разлічваюцца з Пенсійным фондам. У такіх калектывах нізкія надоі і прывагі, слабая ўраджайнасць, большасць вяскоўцаў апусціліся, співаюцца. Ды і мясцовы малочны завод ажыў толькі тады і запрацаваў на поўную магутнасць, калі стаў закупляць яшчэ малако ў Літве.

Полацкі раён

# З працы не вярнуліся

■ Кастусь Александровіч

**На працягу месяца на аб'ектах беларускай энергетычнай гаспадаркі адбыліся дзве значныя аварыі з цяжкімі наступствамі.**

Спачатку, як вядома, выбухнула кацельная ў Луніцы, што на Брэстчыне, ля ўзводзімай ТЭЦ. Там загінуў мужчына і яшчэ двое чалавек атрымалі цяжкія траўмы. Падобная аварыя потым была зафіксавана і на яшчэ больш буйной Наваполацкай ТЭЦ, аднаго з падраздзяленняў РУП "Віцебскэнерга". У горад над Дзвіной для расследвання гэтай справы прыехала нават група следчых з цэнтральнага апарата Следчага камітэта РБ з неабходным вопытам дзейнасці ў гэтай сферы. На мясцовай цеплаэнергацэнтралі здарэнне адбылося днём падчас правядзення рамонтных работ па замене аднаго з агрэгатаў. Там вяла рамонт цэлая брыгада, а ля трубаправода з паравадзяной сумессю апынуліся слесар і 34 гадовы зваршчык з ААТ "Белэнергарамналадка". У нейкае імгненне адбыўся яе выкід з тэмпературай пад 200 градусаў, у выніку чаго абое мужчын і загінулі. Таксама знізіўся ціск і аўтаматыка спыніла падачу пару спажыўцам на нафтаперапрацоўчы завод "Нафтан". Спыніліся і асноўныя катлы мясцовай ТЭЦ. Праўда, падачы электраэнергіі спажыўцам нафтаграда не было парушана. На месцы здарэння аператыўна меней чым за 4 гадзіны ліквідавалі наступствы гэтай аварыі і ўжо пасля абеду аднавіўся нармальны рэжым дзейнасці станцыі. Іншая справа, што загінуўшых людзей не вернеш, гора прыйшло ў іх сем'і. На самой ТЭЦ таксама змрочная абстаноўка пасля гэтай бяды з гібеллю людзей. На месцы трагедыі праводзяцца неабходныя экспертныя расследванні, правяраецца дакументацыя, вядуцца допыты на прадмет выканання службовых інструкцый і правіл тэхнікі бяспекі. Віну канкрэтных службовых асоб у гібелі людзей установіць потым суд.

Гарадоцкі раён

# Да "палясоўшчыка" з Парнаса

■ Чэслаў Якубовіч

**Дзякуючы прайшоўшаму ў райцэнтры фестывалю-ярмарцы працаўнікоў вёскі і райцэнтр Гарадок вельмі змяніўся, папрыгажэў, набыў еўрапейскі лоск.**

І хоць гэта мерапрыемства не стала падзеяй рэспубліканскага значэння, сюды ўклалі меней сродкаў, чым меркавалася, але мясцовым жыхарам вельмі спадабаліся значныя змены. Для моладзі і дзяцей цяпер любімым месцам забаў і спатканняў стаў сквер у цэнтры горада, дзе з'явілася цэлая скульптурная кампазіцыя, прысвечаная галоўнаму персанажу знакамітай айчыннай гумарыстычнай паэмы "Тарас на Парнасе". Большасць беларускіх школьнікаў з задавальненнем знаёміліся з яе героем, але не надавалі значэння, дзе яна была напісана. Між тым вядомы твор выйшаў з-пад пяра мясцовага ўраджэнца з вёскі Астраўляны Канстанціна Вераніцына. У гэтай мясцовасці ганарацца сваім земляком, праславіўшым край і гутарковую мову таго стагоддзя, на якой напісана гэта паэма. Дагэтуль у Гарадку ўжо стаяў камень-валун з металічнай таблічкай з тэкстам з кнігі. Дарэчы, і новую скульптурную кампазіцыю вырабілі таксама ў выглядзе адкрытай кнігі з ілюстрацыямі. З яе нібыта выйшаў вясёлы палясоўшчык Тарас, каб адправіцца ў легендарнае падарожжа да антычных Багоў. Побач унізе на тратуарнай плітцы на гранітным пяньку размясцілася прыгожая белачка. Ужо некалькі дзён сюды прыходзяць людзі і актыўна робяць фотаздымкі на памяць пасля знаёмства з героем паэмы, якая распавяла пра адметнасці характару беларусаў. Помнік размясцілі ў прыгожым месцы па суседстве з Домам рамёстваў, у якім займаецца творчасцю шмат мясцовых талентаў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 09.10.14 | | | | Пятніца 10.10.14 | | | | Субота 11.10.14 | | | | Нядзеля 12.10.14 | | | | Пн.13.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +6 | +16 | +11 | +11 | +10 | +18 | +13 | +12 | +12 | +21 | +13 | +12 | +12 | +19 | +13 | +12 | +9 | +14 |
| Ціск | 749 | 748 | 747 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 750 | 748 | 748 | 747 | 747 | 745 | 743 | 744 | 748 | 749 |
| Вільготнасць | 77 | 83 | 69 | 97 | 99 | 99 | 78 | 98 | 98 | 100 | 70 | 99 | 100 | 100 | 75 | 92 | 94 | 97 | 73 |
| Вецер м/сек | 6 Пд | 6 Пд | 6 Пд-З | 5 Пд-З | 4 Пд-З | 5 Пд | 5 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 2 Пд | 3 З | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 3 Пд | 3 Пд | 5 Пд-З | 7 З | 5 З | 5 Пн-З |

# Аб самым надзённым

## І без дэвальвацыі беларускай нацвалюты канчаткова абясцэніліся купюры наміналам 50 рублёў




■ Аляксандр Цішкевіч

**Адначасова з кожным годам слабее наша нацыянальная валюта. Да прыкладу, у канцы 2010 года перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі долар каштаваў 3 тысячы рублёў РБ, а праз год за выяву Вашынгтона патрэбна было аддаць ужо 8 тысяч, сёлета курс долара можа наблізіцца да вышыні 11 тысяч рублёў.**

Канец лета – пачатак восені прынёс беларусам шэраг значных навін, якія датычаць практычна кожнага з нас. Нават на афіцыйным узроўні вымушаны былі прызнаць, што ў жніўні сярэдняя зарплата ў Беларусі знізілася намінальна на 1,4 %, а рэальныя заробкі і тым больш пенсіі ўжо ў людзей меншыя, чым былі год назад. Зацвердзілі ўлады і новую форму разліковых рахункаў за камунальныя плацяжы, у якой будуць указаны лічбы рэальных тарыфаў і субсідый за паслугі ЖКГ. Па-сутнасці, суайчыннікаў пачалі пакрыху маральна рыхтаваць да таго, што ў недалёкім будучым за пражыванне прыйдзецца плаціць значна болей, чым цяпер.

Як заўсёды ў гэты час, пачалася масавая вакцынацыя насельніцтва ад наступстваў грыпу, эпідэмія якога чакаецца ў студзені будучага года. Там, дзе актыўна рабілі прышчэпкі ад гэтага вірусу, на працягу двух апошніх зім, дарэчы, беларусы меней хварэлі і не адзначалася эпідэмічнага пад'ёму захворванняў на грып. Прыемная навіна прыйшла і для сем'яў-забудоўшчыкаў: пры ўмове поўнага разліку з будаўнікамі за праведзеныя работы, іх засяляць у новыя кватэры на працягу месяца з моманту здачы жылога дома ў эксплуатацыю. Таксама паведамілі, што беларускі ўрад разгледзіць пытанне аб пераходзе на зімовы час услед за Расіяй, на якую ў нас прывыклі раўняцца.

А вось на еўрапейскім накірунку нашу краіну ад кантынента многае адрознівае. У канцы верасня Еўрапейскі цэнтрабанк увёў у абарачэнне новую купюру вартасцю 10 еўра. На ёй у выглядзе галаграмы сімвалаў ЕС і вадзяных знакаў бачна выява багіні земляробства і лічбы мяняюць свой колер пры наклоне купюры. Айчынны ж Нацбанк РБ ідзе сваім курсам і адмовіўся ад чарговай купюры 50 беларускіх рублёў з выявай Брэсцкай крэпасці, якая выводзіцца з абарачэння з 1 студзеня 2015 года. Праўда, яшчэ паўгода гэтыя рублікі, за якія практычна нічога не купіш, яшчэ будуць прымацца пры ўсіх відах плацяжоў, а потым паступова пасля абмену адыдуць у гісторыю.

Іх лёс толькі пацвярджае тое, якім звілістым і няпростым курсам ідзе наша краіна, бо 50-рублёўка "пражыла" крыху больш 14 гадоў. Яе ўвялі ў абарачэнне ў 2000 годзе і тады гэта былі сапраўдныя грошы. На той час, хто не забыўся, за няпоўных 7 такіх банкнот можна было купіць 1 долар. За 50 беларускіх рублёў у крамах можна было набыць пакет кефіру, нават 3 пачкі солі, паўкілаграма мукі і 2 літры мінеральнай вады. Зараз у XXI стагоддзі беларусу, каб купіць 100 долараў, спатрэбіцца паўмяшка грошай, альбо 21100 білетаў Нацбанка Беларусі вартасцю 50 рублёў. Нашы рублікі ўслед за зайчыкамі, белкамі, а потым "псеўдарублямі", у якіх адымалі па некалькі нулёў, рэгулярна пераўтвараюцца ў макулатуру.

Адначасова з кожным годам слабее наша нацыянальная валюта. Да прыкладу, у канцы 2010 года перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі долар каштаваў 3 тысячы рублёў РБ, а праз год за выяву Вашынгтона патрэбна было аддаць ужо 8 тысяч, сёлета курс долара можа наблізіцца да вышыні 11 тысяч рублёў. На гэтым вось нярадасным фоне прыйшло паведамленне, што напрыканцы лета ў жніўні золатавалютныя рэзервы краіны выраслі на 80 млн. долараў. Гэта – зусім нязначна, але радуе і сведчыць, што болей пайшло на расійскі рынак беларускіх прадуктаў харчавання.

Праўда, як вынікае з апошніх падзей, наша самастойная палітыка, пэўнае пацяпленне адносін з Захадам адразу выклікала раздражнёную рэакцыю шавіністычнага Крамля. Там ужо адкрыта гавораць, што ў матухны-Расеі не засталося сяброў і саюзнікаў, за выключэннем яе арміі і флота. Суседняя псеўдаімперыя ідзе да поўнай ізаляцыі ў свеце, а адыёзны рупар Масквы сумна вядомы Жырыноўскі недвухсэнсоўна папярэджвае нават беларускае і казахскае кіраўніцтва, што калі яны перакінуцца ў стан ворагаў Расіі, то могуць рыхтавацца да таго, што іх тэрыторыя можа стаць тэатрам ваенных дзеянняў.

Аднак пакуль нашы кіраўнікі не звяртаюць увагі на гэтыя маскоўскія папярэджанні. У Нью-Йорку прайшоў беларуска-амерыканскі інвестыцыйны форум, з беларускім прэм'ерам сустрэўся Б. Абама, амерыканцы могуць пачаць збіраць пад Мінскам свае аўтамабілі "Джэнерал Моторс". А вось А. Лукашэнка пабываў з візітам у Малдове, якую Крэмль старанна прэсуе за збліжэнне малдаван з Еўропай. І таму не дзіўна, што мы пачулі адразу смярдзючы імперскі дух з белакаменнай сталіцы "русского мира".

Нават у лепшых айчынных кампаній, такіх як "Савушкаў прадукт", "Бабуліна крынка", агракамбінат "Дзяржынскі" і іншых, рускія выявілі нейкія шкодныя рэчывы, як раней у грузінскай вады "Баржомі", малдаўскага і ўкраінскага віна. Ды і Крым суседзі на ўсходзе далучылі гвалтоўна пад дуламі аўтаматаў і кулямётаў. А што выйгралі крымчане ад новага статусу? Курортны сезон праваліўся, цэны гахнулі ўверх, жыць людзі сталі на паўвостраве горш, чым раней. А ў Крамля зараз эканамічная рэцэсія і стагнацыя, прыходзіць час туга зацiскаць паясы, а галоўнае, маючы болей усіх у свеце ворнай зямлі, не могуць палова насельніцтва самі пракарміць. Рускіх "патрыётаў" нервуе, што беларусы шмат сталі закупляць у Еўропе малака, мяса, садавіны, рыбы, а потым перапрацоўваць і ім прадаваць, хоць такая дзейнасць цалкам законная.

## Дзень за днём

**Расія выявіла нават у лепшых беларускіх кампаній нібыта шкодныя рэчывы ў іх прадуктах. Выбары прэзідэнта Беларусі адбудуцца не пазней 15 лістапада 2015 года. А. Лукашэнка паставіў задачу аснасціць армію сучаснай высокадакладнай зброяй, а пагранічнікаў – беспілотнымі лятальнымі апаратамі. Рэальныя пенсіі беларусаў сёлета зменшыліся ў параўнанні з 2013 годам. За кошт прыцягнення інвестараў плануюць у далейшым будаваць арэнднае жыллё. Педафілы ў Беларусі могуць правесці за кратамі болей часу, чым дагэтуль. У Беларусь пасля "бабіна лета" прыйшла астранамічная восень і зноў павысілася амаль на 20 % плата за тэлефон.**

## Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама на сесіі Генасамблеі ААН заявіў, што свет прымусіць Расію дорага заплаціць за сваю агрэсію ва Украіне, украінцам акажуць дапамогу.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка паабяцаў, што краіна падасць заяўку на членства ў ЕС у 2020 годзе і забараніў пасылаць у Данбас салдат тэрміновай службы ў зону АТА.

**Літва.** Прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ заявіла, што Расія становіцца дзяржавай-тэрарыстам, пасля агрэсіі ва Украіне яна можа не спыніцца, стала пагражаць і краінам Балтыі.

**Расія.** Экс-міністр эканомікі РФ Я. Ясін папярэдзіў, што імклівы рост расходаў на абарону толькі ўзмацніць збядненне простых расіян і далейшае спаўзанне краіны ў крызіс.

**Украіна.** Падчас трох атак баевікоў ля Дэбальцава на пазіцыі ўкраінскіх войск быў знішчаны элітны батальён марской пяхоты РФ, у Харкаве скінулі вялізны помнік Леніна.

**Швейцарыя.** Былы палітвязень М. Хадаркоўскі заявіў, што змяніць шавіністычны пуцінскі рэжым можа змяніць палацавы пераварот, альбо Майдан з вялікай крывёй.

**Літва.** На былой савецкай ваеннай базе ў Рукле па просьбе літоўцаў з'явіцца дадатковы батальён сіл хуткага рэагавання НАТО у складзе ваенных Бельгіі, Германіі і Венгрыі.

**Украіна.** Як паказалі сацапытанні, з сусветных лідараў украінцы найлепш адносяцца (62 %) да главы Беларусі А. Лукашэнкі, як да ворага стаўленне (75 %) да лідара РФ У. Пуціна.

**Алжыр.** Фанатыкі-ісламісты адрэзалі галовы выкрадзеных імі французскіх турыстаў, у Сірыі баевікі захапілі і спалілі некалькі курдскіх вёсак, людзям таксама адрэзалі галовы.

**ЗША.** Вучоныя Цэнтра па кантролю і прафілактыцы захворванняў спрагназавалі, што да студзеня 2015 года вірусам ліхаманкі Эбола могуць захварэць да 1,4 млн. чалавек.

**Украіна.** Часовы кіраўнік анексаванага Крыма С. Аксёнаў прызнаў шэраг цяжкасцей і што ў ніводнай з структур улад няма чоткага плана інтэграцыі паўвострава ў Расію.

**Літва.** Вечарам на КПП "Мядзінінкай" затрымалі начальніка ўпраўлення Следчага камітэта РБ па Мінску палкоўніка Д. Канапляніка, які не задэклараваў патроны.

**Індыя.** Вучоныя краіны вывелі касмічны апарат-зонд на арбіту Марса, індусы сталі чацвёртай у свеце дзяржавай, дзе дабіліся такога ўзроўню развіцця тэхналогій.

**Карэя.** З-за падзення попыту кампанія па выпуску электронікі Samsung вырашыла спыніць пастаўкі ў Еўропу сваіх ноўтбукаў і хромбукаў.

**КНДР.** Нечакана дзяржаўнае тэлебачанне паказала сюжэт з лідарам краіны, маршалам Кім Чэн Ынам, які моцна кульгаў, і паведаміла аб існуючых праблемах з яго здароўем.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр працы і сацабароны Беларусі М. Шчоткіна паабяцала павышэнне тарыфнай стаўкі 1-га разраду і што не будзе масавых звальненняў у бліжэйшы час.

**Пінск.** Пажылога дырэктара школы мастацтваў арыштавалі па падазрэнні ў педафіліі, распутстве і згвалтаванні нават двух школьніц у сваім службовым кабінеце.

**Баранавічы.** Не спраўдзіліся надзеі кіраўніцтва РБ, што Расія перадасць Беларусі некалькі самалётаў Су-30к пасля мадэрнізацыі на авіярамзаводзе, але іх партыя пайшла Анголе.

**Абчак.** Амерыканская кампанія General Motors перадумала збіраць на мясцовым заводзе аўтамабілі "Опель" і будзе выпускаць дробнасерыйныя легкавыя аўтамабілі.

**Ліда.** Пад суд можа пайсці дырэктар аднаго з дзяржпрадпрыемстваў, якому 2 гады чацвёра падначаленых бясплатна будавалі дачу, капалі агарод, ён незаконна атрымаў 8 млн. прэміі.

**Мінск.** Пасля абвінавачвання кіраўніцтвам ФПБ Генпракуратуры РБ у незаконных дзеяннях неўзабаве падаў у адстаўку кіраўнік беларускіх прафсаюзаў Леанід Козік.

**Чавусы.** Медыкам райбальніцы не ўдалося выратаваць жыцці двух з сям'і з чатырох чалавек, якія атравіліся грыбамі, на Магілёўшчыне было дагэтуль 9 пацярпелых.

**Мінск.** У сталіцы адкрыўся яшчэ адзін аўтасалон з дылерскім цэнтрам кампаніі Nissan, які будзе прадаваць машыны як японскай зборкі, так і 2 мадэлі, выробленыя ў Расіі.

**Гродна.** У ФК "Нёман" ужо амаль паўгода не плацяць зарплату ігракам, трэнерам і работнікам клуба, праблемы з фінансамі таксама ў Бабруйску, Брэсце, Жодзіна.

**Драгічын.** Падчас расчысткі канала малой ракі Няслуха экскаватаршчык ПМК-3 А. Сацюк знайшоў бівень мамонта, абследваннем мясцовасці займуцца беларускія археолагі.

**Гродна.** Да юбілею вобласці ў аграгарадку Копцеўка адкрылі 3-ці па ліку ў рэгіёне сёлета новы сучасны дзіцячы сад-яслі на 75 месц, на яго пайшло 24,6 млрд. рублёў.

**Мінск.** Хакейную зборную Беларусі зноў узначаліў новы галоўны трэнер, 64-гадовы расійскі спецыяліст У. Крыкуноў, за 20 месяцаў працы ён атрымае 200 тысяч еўра.

**Бабруйск.** Толькі за збор фактаў для сюжэта на тэлеканале "Белсат" суд пакараў 5 млн. рублёў штрафу журналістку Марыю Малчанаву, хоць яна рэпартаж не рабіла.

**Кобрын.** Позна вечарам на тэрыторыі раёна 20-гадовы хуліган з Брэста з пнеўматычнага пісталета абстраляў рэйсавы аўтобус, пашкодзіў дзве шыбы, гарастралка затрымалі.

**Мінск.** На закрытым на рэканструкцыю стадыёне "Дынама" пачаліся здымкі фільма пра легендарнага савецкага футбаліста Эдуарда Стральцова з удзелам айчынных ігракоў.

## У прыгранічных рэгіёнах Беларусі змяняюцца межы пагранічнай зоны і паласы




■ БелаПАН

**Абласныя выканкамы паводле прапановы Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Беларусі перагледзелі межы пагранічнай зоны і паласы і прынялі адпаведныя рашэнні, паведамляе пагранведамства.**

У Брэсцкай і Віцебскай абласцях такія рашэнні ўжо набылі моц. Найбліжэйшым часам аналагічныя змены адбудуцца і ў іншых рэгіёнах.

«Важным з'яўляецца тое, што з пагранічнай зоны выключаныя тэрыторыі санаторыяў, дамоў адпачынку, іншых аздараўленчых устаноў, аб'ектаў культуры, а таксама месцаў масавага адпачынку, водакарыстання, выканання рэлігійных абрадаў і іншых месцаў традыцыйнага масавага знаходжання грамадзян, у тым ліку і турыстычныя маршруты, напрыклад, нацыянальнага парку «Белавежская пушча», — гаворыцца ў паведамленні Дзяржпагранкамітэта.

У той жа час у межах прынятых рашэнняў на ўчастках крымінальнай актыўнасці на прыгранічных тэрыторыях і на подступах да мяжы пагранічная зона павялічыцца на 3—5 км, пагранічная паласа — да 1 км. «Гэтыя змены не такія істотныя, але яны дазволяць забяспечыць неабходныя ўмовы для больш эфектыўных прэвентыўных мер пагранічнай бяспекі з улікам апошніх тэндэнцый супрацьпраўнай дзейнасці праз мяжу», — адзначаюць у пагранведамстве.

Там звяртаюць увагу на тое, што актыўная тактыка імклівых дзеянняў з боку парушальнікаў мяжы і асоб, якія ажыццяўляюць супрацьпраўную дзейнасць, звязаную з арганізацыяй незаконнай транзітнай міграцыі, кантрабанды і наркатрафіку, патрабуе адэкватнай гатоўнасці з боку органаў пагранічнай службы. На першапачатковым этапе асноўны ўпор у дзейнасці супрацоўнікаў пагранічнай службы па кантролі рэжыму пагранічнай зоны і паласы будзе зроблены непасрэдна на інфармацыйна-прафілактычную працу.

«Законапаслухмяныя жыхары памежжа карэнных зменаў у сувязі з прынятымі нормамі не адчуюць. У сувязі з гэтым просім грамадзян і суб'екты гаспадарчай дзейнасці ўлічваць новыя акалічнасці пры наведванні або правядзенні работ на тэрыторыях, якія ўваходзяць у абноўленыя межы пагранічнай зоны і паласы», — гаворыцца ў паведамленні Дзяржпагранкамітэта.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Супрацоўнікі Рассельгаснагляду ўнеслі ў спіс небяспечных прадпрыемстваў мясцовую бройлерную птушкафабрыку і пачалі там шукаць небяспечныя рэчывы ў мясе.

**Гарадок.** Пасля прайшоўшых абласных "Дажынак" у райцэнтры прадоўжаць узводзіць басейн, не паспелі адрамантаваць суд, ветстанцыю, Дом культуры, кінатэатр "Радзіма".

**Верхнядзвінск.** Услед за Пастаўскім малзаводам і мясцовы масласырзавод разам з Глыбоцкім МКК пачалі закупы малака ў фермерскіх гаспадарак Літвы і Латвіі.

**Орша.** Праз 6 дзён пасля наведвання А. Лукашэнкам абноўленага Арэхаўскага льнозавода на адным з яго складоў з сыравінай адбыўся пажар, на шчасце работнікі не пацярпелі.

**Віцебск.** Па дадзеных Нацстата, Віцебшчына стала самым бедным рэгіёнам краіны сярод абласцей з узроўнем зарплаты 5,710 мільёна рублёў, а вось у Мінску заробкі ўжо 8,3 мільёна.

**Наваполацк.** Днём на тэрыторыі мясцовай ТЭЦ падчас рамонту паравой турбіны загінулі двое работнікаў ААТ "Белэнергарамналадка", гэта не першы трагічны выпадак тут.

**Лучоса.** На закрытым летась свінакомплексе, дзе з-за ўспышкі АЧС знішчылі 21 тысячу галоў свіней, зноў паставілі на біяпробу 120 галоў, сюды вярнулі 75 з былых 240 рабочых.

**Полацк.** У момант "закладкі" псіхатропнага рэчыва спайсаў затрымалі жыхара горада, супрацоўніка следчага падраздзялення, справай заняўся Следчы камітэт Беларусі.

**Паставы.** Пасля перадачы пагранічнага авіяатрада авіяцыі МНС Ваенная акадэмія Беларусі выпусціла першых двух лётчыкаў-лейтэнантаў для палётаў на яе верталётах.

**Шаркаўшчына.** На працягу месяца тройчы абрабавалі магазін у вёсцы Германавічы, у крадзяжах падазраюць і вучня 8 класа, у яго на гарышчы дома знайшлі крадзенае.

**Расоны.** На аграсядзібе "Заімка Лешага" ў вёсцы Сасновы Бор вучоныя-арнітолагі выявілі і акальцавалі новы для Беларусі 327-мы па ліку від птушак: пеначку-зарнічку.

**Глыбокае.** Усё болей школы раёна цікавіць новы музей, адкрыты ў СШ № 2 і прысвечаны савецкаму перыяду гісторыі, частка экспазіцыі будзе пра жыццё Глыбоччыны пры СССР.

**Полацк.** У памяшканні храма грэка-каталіцкай парафіі даў сольны канцэрт беларускі спявак Зміцер Вайцюшкевіч праз амаль год пасля забароненага ўладамі выступлення.

**Браслаў.** Дырэкцыя Нацыянальнага парка "Браслаўскія азёры" аб'явіла аб закупе да канца года цэлага статку з 45 аленяў высакародных, на гэтыя мэты выдаткавана 980 мільёнаў рублёў.

**Наваполацк.** Ураджэнца горада, дэпутата парламента і вядомага ў мінулым спартсмена В. Дзевятоўскага выбралі старшынёй Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Беларусі адзначаны новы від птушак – пячураўка-зарнічка

**Беларускі арнітолаг Дзяніс Кіцель выявіў у Беларусі новы від птушак — пячураўку-зарнічку.**

Як паведамляе прэс-служба грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ), адкрыццё было зроблена арнітолагам у вёсцы Сасновы Бор Расонскага раёна Віцебскай вобласці. "У гэтых месцах жыве шмат птушак, але я прыехаў менавіта за зарнічкай, таму што апошнім часам назіраецца шмат рэгістрацый гэтага віду ў суседніх краінах. І я падумаў: можа, і ў нас ёсць?" — сказаў Кіцель.

У Беларусі зарэгістраваныя чатыры віды пячуравак: пячураўка-трашчолка, пячураўка-ценькаўка, пячураўка-будаўнічок і зялёная пячураўка, адзначылі ў АПБ. У верасні-кастрычніку пячураўкі ляцяць з Еўропы на зімоўку ў Азію і Афрыку, аднак Беларусь звычайна не ляжыць на шляху іх міграцыі.

Раней Дзяніс Кіцель першым выявіў у Беларусі яшчэ два віды птушак — горную пліску (у 2009 годзе) і чайканосую крычку (у 2012-м). У перспектыве арнітолаг плануе знайсці таксама каральковую пячураўку, пячураўку-талаўку і аўсянку-рэмез.

У Беларусі на сёння афіцыйна зарэгістраваныя 323 віды птушак. Яшчэ пяць відаў, уключаючы пячураўку-зарнічку, чакаюць рэгістрацыі ў Беларускай арнітафаўністычнай камісіі.

*Анастасія Саланові, БелаПАН.*

# Стрынадкі – "птушыная" назва вёскі

**Прапанаваны вышэй матэрыял, мае наўпроставае дачыненне да нашага краю, бо птушку пячураўку-зарнічку выявілі недалёка ад нас – у Расонскім раёне. Аднак арнітолаг Дзяніс Кіцель плануе яшчэ выявіць і аўсянку-рэмез.**

■ **Уладзімір Скрабатун**

Скажу чэсна: у птушках я разбіраюся слаба, але варону ад бусла адрозню. Больш разбіраюся ў рыбе, бо сам, часам, яе лаўлю.

БелаПАНаўскі матэрыял можна было б пакінуць без каментароў. Аднак, ёсць людзі, якія ў птушках разбіраюцца лепш за мяне. Асабліва ў тых дробных, якія часам сноўдаюць па нашых садах і парках.

Сядзіць нейкая птушка на галінцы велічынёй з вераб'я, але, яўна не верабей – афарбоўка іншая, а як яе клічуць не задумваешся, ды ей калі там думаць – паляцела птушка далей.

А тут раптам, на адным з форумаў, паводле згаданай БелаПАНаўскай нататкі, чытаю каментар аднаго наведніка, які заўважае, што аўсянка-рэмэз па-беларуску – стрынатка-рэмез.

Падобна на сенсацыю! У нас жа пад Глыбокім – вёска Стрынадкі. Стрына*т*кі (птушкі) і назва вёскі Стрына*д*кі – яўна адно і тое слова. Па аналогіі ёсць жа ў нашым раёне вёскі Вераб'і і Сарокі.

Спраўдзіў назву вёскі Стрына*д*кі па старой мапе 3-вёрстцы 1860-х гг. Напісана – Стрына*т*кі!

Відавочна, у той час стрынатку ў нас яшчэ не называлі аўсянкай. Беларуская назва паступова сцёрлася пад уздзеяннем розных даведнікаў, якія ў пераважнай бальшыні выдаюцца на рускай мове. А мо я перабольшваю? І дзе-небудзь, у нейкай вёсцы, аўсянку ўсё яшчэ і сёння клічуць стрынаткай?



Тут варта заўважыць, што арнітолаг шукае стрынатку-рэмез. То якія яшчэ падвіды стрынатак ёсць? Зразумела, стрынатка звычайная, якая дала назоў вёсцы, яшчэ – стрынатка-прасянка, стрынатка-белашапка, стрынатка-чаротаўка...

Натуральна, можна паразважаць і аб тым, што назва вёскі можа паходзіць не ад назвы птушкі ад прозвішча Стрынатка. Ёсць жа прозвішчы Верабей і Сарока і назвы вёсак Вераб'і і Сарокі. То, годзе! У такім выпадку і прозвішча Стрынатка таксама будзе "птушыным".

# Накрылі паляну ... для мядзведзя

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Гэтая гісторыя адбылася не сёння і не ўчора, нават не ў гэтым годзе. Але распавялі яе сёння.**

Вярнуліся мы дадому з поўнымі вёдрамі баравікоў, перабіраем...

– Можа ў Чорным Ручаі збіралі?– пытаецца сяброўка дачкі, якая завітала да нас.

– Не! Не ў Чорным Ручаі, ў пушчы. А што? Мядзведзі там шастаюць! Ведаем!

– Так! Паехалі мае бацькі са знаёмымі ў Чорны Ручай адпачыць, палатку ўзялі, мангал захапілі... Там возера ляснае ёсць. Ну, усё – паляну накрылі, настаў час добра і смачна паесці.

Але пах смажаных шашлыкоў казытаў нос не толькі адпачывальнікам, але і гаспадару лесу – мядзведзю.

Ён не прымусіў доўга чакаць, прышоў паабедаць. З'еў, што пажадаў, што не з'еў – пакалашмаціў. І пайшоў далей. Аматары шашлыкоў назіралі гэтую карціну праз шыбы з салона аўтамабіля.



**У Беларусі плануецца правесці абавязковую атэстацыю арганізацый, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і прадастаўляюць жыллёва-камунальныя паслугі. Аб гэтым паведаміла начальнік аддзела юрыдычнай работы і кадраў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Наталля Кухарчык, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

# У Беларусі плануецца правесці абавязковую атэстацыю арганізацый ЖКГ

"Для праходжання атэстацыі будуць выстаўляцца пэўныя патрабаванні. Па-першае, наяўнасць адпаведнага абсталявання. Па-другое, будзе ўлічвацца нарматыў колькасці работнікаў, які неабходны для абслугоўвання канкрэтнай тэрыторыі. Акрамя таго, кіраўнік і асобныя спецыялісты павінны будуць прайсці навучанне і атрымаць атэстат, які пацвярджае іх кваліфікацыю ў частцы якаснага аказання жыллёва-камунальных паслуг", - растлумачыла Наталля Кухарчык. Бонусам пры праходжанні атэстацыі будзе з'яўляцца наяўнасць сертыфіката СТБ ISO 9001.

Пачаць атэстацыйны працэс плануецца 1 студзеня 2016 года. "Правядзенне атэстацыі будзе арганізавана на базе нашага вучэбнага цэнтра падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў "Жылкам". Патрабаванні і парадак яе правядзення пакуль распрацоўваюцца", - адзначыла Наталля Кухарчык. Пры гэтым спецыяліст падкрэсліла, што плаціць за атрыманне атэстата арганізацыям не давядзецца.



# Фільм "Усё прыдумана Богам" можна паглядзець цяпер і на You Tube

**Дакументальны фільм пра глыбоцкую аўтакраму.**

**БелСАТ зняў адзін з лепшых сваіх дакументальных фільмаў "Усё прыдумана Богам".**

Кінадакументалісты наведалі глыбоцкія вёскі: Лучайка, Ласькія, Сасноўка, Залессе, Бушыкі, Запруддзе, Загор'е, Сорыкі, Зубкі, Заборцы, Дылевічы.

Стваральнікі фільму адправіліся ў падарожжа па беларускіх вёсках... з аўтакрамаю Глыбоцкага райпо.

Неабыякавых гледачоў фільм кранае да слёзаў. У ім няма ніякага дыктарскага голасу за кадрам, у кадрах – толькі насельнікі глыбоцкіх вёсак і іх галасы. Яны чакаюць прыезду ў вёску аўтакрамы.

Фільм "Усё прыдумана Богам" можна паглядзець цяпер на You Tube і на сайце ***westki.info.***

# Добра ўсюды, дзе нас няма?

**Нашы калегі з "Рэгіянальнай газеты" (Маладзечна), а менавіта Вольга Юркевіч, прайшлася па Кальварыйскім рынку ў Вільні і параўнала кошты на беларускія і літоўскія прадукты адпаведна спісу, які газета друкуе штотыдня. Курс літа на 19 верасня, калі праводзіўся аналіз, складаў 3929, 18 беларускіх рубля. У табліцы, якую мы са згоды "Рэгіянальнай газеты", змяшчаем ніжэй, можна было б паставіць трэцім радком і глыбоцкія кошты, але наўрад ці ў Глыбокім танней, чым у Маладзечне. Звычайна, даражэй. То не будзем яшчэ больш палохаць нашых чытачоў.**








| Вільня | | | Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 15 700 | у 2 разы танней | Кава распушчальная, 100 грамаў. | 32 000 |
| 70 000 | у 2 разы танней | Ласось, 1 кілаграм | 140 000 |
| 51 000 | у 2,7 раза танней | Каўбаса сыравэнджаная, 1 кілаграм | 139 000 |
| 16 000 | у 1,7 раза танней | Шакалад, 200 грамаў | 28 000 |
| 52 800 | у 1,7 раза танней | Свініна (выразка), 1 кілаграм | 95 000 |

**На пяці прадуктах карэспандэнтка зэканоміла 228 500**

# Жывём, як на сметніку – усе бачаць, але маўчаць



**Рэспубліка Беларусь здаўна славілася сваімі прыроднымі багаццямі. Толькі фонд рыбалоўных угоддзяў у цяперашні час складае больш за 10 тысяч азёр агульнай плошчай 134 тысяч гектараў, 80 тысяч гектараў вадасховішчаў, 90 тысяч кіламетраў вялікіх і малых рэк. Агульная плошча паляўнічых угоддзяў у Беларусі складае больш за 18 мільёнаў гектараў.**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Знадыходам восені і заканчэннем уборкі агародаў і прысядзібных участкаў грамадзяне пачынаюць вывозіць рэшткі травы, бацвіння ў лес, паліць траву, іржышча, маркуючы па сваёй наіўнасці, што тым самым яны палепшаць сенажаці. Але ж падчас спальвання сухой травы ў першую чаргу гіне каранёвая сістэма лепшых траў, а замест траў багата пачынае расці пустазелле. Падчас пажараў шмат гіне птушак, маладняк зайцарусака і іншых дзікіх жывёл.

За выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, а таксама ржышча і пажніўных рэштак на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў на зямельных участках – цягне накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь, а ў Эстоніі штраф за падобнае дзеянне 1000 долараў ЗША. Таму грамадзянам трэба задумацца: спальванне сухой травы можа прывесці да чалавечай трагедыі, гібелі маёмасці. З законам гуляць не варта.

Шмат на тэрыторыі раёна і несанкцыянаваных звалак. Прыбіраючы бульбоўнік, грамадзяне вывозяць яго ў лес, бліжэйшыя хмызнякі, але гэта ўсё незаконна і пагражае вялізным штрафам. Смецце вывозяць у лес паблізу вёсак, пакідаюць уздоўж дарог, каля вадаёмаў. Атрымліваецца як у дрэннай гаспадыні, смецце замялі ў кут і прыкрылі венікам.

Жывём, як на сметніку – усе бачаць, але маўчаць, не жадаюць сварыцца, бо кінулі не да мяне ж у агарод. Толькі за мінулы тыдзень супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі за забруджванне драўняна-хмызняковай расліннасці і прыбярэжнай зоны вадаёмаў прыцягнута да адказнасці двое грамадзян і адна юрыдычная асоба. Асаблівая ўвага да рыбаловаў-аматараў: хацелася б нагадаць, што згодна з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, рыбалоў абавязаны падтрымліваць чысціню ў месцы лоўлі рыбы, г.зн. прыбраць смецце, нават калі яно пакінутае папярэднім рыбаловам. Адказваць будзе той грамадзянін, які ажыццяўляе лоўлю рыбы ў дадзеным месцы.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз просіць грамадзян строга выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, любіць і берагчы нашу прыроду, не быць абыякавымі да забруджвання лясоў, браканьерства.

**Тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія» – кругласутачна, мабільныя (МТС): 8972302, 8905528, 2494549, 6456678.**



# Найвышэйшы касцёл у Беларусі адзначыў свой стогадовы юбілей

■ **Зміцер Лупач**

**Ва ўрачыстасцях, якія адбыліся ў Відзах у нядзелю 5 кастрычніка, прыняў удзел біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.**

Храм быў цалкам запоўнены людзьмі. Каб паўдзельнічаць у святкаванні юбілею, у касцёле сабраліся не толькі вернікі з Відзаўскай парафіі, але і госці з іншых месцаў. Прычым не толькі з Беларусі, але і з суседніх краін: Польшчы, Літвы, Латвіі і Расіі.

Пра драматычную гісторыю гэтай святыні мы распавядзем вам у наступных нумарах газеты.

# «Стань заўважным у цемры!»

**У сувязі з скарачэннем светлавога дня па дарогах абвастрылася абстаноўка з бяспекай дарожнага руху. Большая частка ДТЗ, якія здзяйсняюцца ў гэты час - гэта наезды на пешаходаў у цёмны час сутак.**

■ **М.А. Цынковіч,** *старэйшы інспектар ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі*

**У адпаведнасці з п. 17.1 Правілаў дарожнага руху пешаходы абавязаны пры руху па краі праезнай часткі дарогі абазначыць сябе святлоадбіўнымі элементамі**. За невыкананне гэтага патрабавання пешаходы прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры ад 150000 да 450000000 рублёў. Калі парушэнне ўчыняецца ў стане алкагольнага ап'янення, то сума штрафу вагаецца ад 450000 да 750000000.

Многія грамадзяне з пагардай глядзелі на рэкламныя ролікі, білборды, плакаты, якія прапагандуюць бяспеку дарожнага руху, прымаючы гэтую акцыю за звычайныя рэкламны трук службы ДАІ. Таму было прынята рашэнне: раз да ўвагі агітацыйная праца не прымаецца, прыйдзецца «лячыць» рублём.

Супрацоўнікі Дзяржаўнай аўтаінспекцыі і ўчастковыя інспектары міліцыі, а таксама работнікі дарожных службаў штодня праводзяць рэйды па кантролі над выкананнем пешаходамі патрабаванняў ПДР. Аб неабходнасці выкарыстання **флікераў** з ліку пакараных ведалі амаль усё, аднак сур'ёзна да гэтага патрабавання ніхто не паставіўся.

Але выніковасць не ў колькасці пакараных пешаходаў, а ў скарачэнні колькасці дарожна-транспартных здарэнняў, скарачэнні гібелі людзей пад коламі аўтамабіляў.

Заканамернае пытанне: што ж зрабіць яшчэ Дзяржаўтаінспекцыі і іншым ведамствам, каб грамадства, нарэшце, перастала ўспрымаць **флікеры** як нешта непатрэбнае? Цяпер практычна ўсе жыхары нашай краіны ўжо ведаюць ці хаця б чулі пра **флікеры**. Аднак некалькі гадоў актыўнай прапаганды праз СМІ бяспечных паводзін на дарогах зборльшага прывялі да адваротнага эфекту. Абывацель стаў ўспрымаць сацыяльную рэкламу аб карысці **святловяртальных элементаў** у лепшым выпадку нейтральна, у горшым – з раздражненнем, І гэта нягледзячы на тое, што кожны выдатна разумее ўсю небяспеку, яая чакае на дарогах. Вядома, свядомая частка грамадства паклапацілася пра ўласную бяспеку і набыла **флікеры** для сябе і сваіх блізкіх. Таму, спадзяёмся, з часам вялікія ісціны, закладзеныя ў свядомасці грамадзян, дзякуючы намаганням зацікаўленых ведамстваў, нарэшце дойдуць да свядомасці ўсіх удзельнікаў дарожнага руху, і ўжо для наступных пакаленняў беларусаў **флікер** на вопратцы стане нормай жыцця.






# Вынікі падрыхтоўкі да асенне-зімовага перыяду 2014-2015 гадоў

**Наступіў кастрычнік месяц, а гэта значыць, што прыйшоў час падводзіць вынікі падрыхтоўкі прадпрыемстваў і арганізацый да работы ў асеннезімовы перыяд 2014-2015 года.**

■ **А. Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА*

Хочацца адзначыць, што многімі арганізацыямі ігнараваліся тэрміны рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці, якія былі ўсталяваныя «Графікам афармлення і рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці да асеннезімовага перыяду 2014-2015 года прадпрыемствамі і арганізацыямі г. Глыбокае і Глыбоцкага раёна»

Пад дзяржаўным энергетычным наглядам у г. Глыбокае і Глыбоцкім раёне знаходзіцца 107 спажыўцоў цеплавой энергіі і 89 цеплакрыніц.

Па стане на 1 кастрычніка гэтага года па г. Глыбокае і Глыбоцкім раёне было зарэгістравана пашпартоў гатоўнасці:

■ спажыўцоў – 106 (99,1%);

■ цеплакрыніц – 87 (97,8%).

У гэтым годзе не атрымала пашпарт гатоўнасці да ацяпляльнага зімовага перыяду 2014-2015 гг. ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка». Цеплавыя ўстаноўкі ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» былі прад'яўлены да агляду толькі 6 кастрычніка, хоць агляд па графіку павінен быў праведзены 18 верасня. У ходзе праверкі было ўстаноўлена, што на аб'екце адсутнічаюць паверaныя манометры, не праведзена рэвізія запорнай арматуры, не скончаны працы па ўцяпленні трубаправодаў ацяплення ў падвальных памяшканнях жылых дамоў, не праведзена прамыванне і гідраўлічнае выпрабаванне сістэм ацяплення жылых дамоў, а гэта з'яўляецца парушэннем правілаў. Складзены акт аб невыкананні ўмоў гатоўнасці да ацяпляльнага зімовага перыяду 2014-2015 гг. На дадзены момант на аб'ектах ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» вядуцца працы па ліквідацыі выяўленых парушэнняў. Пасля ліквідацыі ўсіх выяўленых недахопаў будзе праведзены паўторны агляд і выдадзены акт гатоўнасці.

Энергаінспекцыяй Глыбоцкага МРА Энерганагляду будзе весціся нагляд за эксплуатацыяй цеплакарыстальных установак і цеплавых сетак спажыўцоў у перыяд праходжання ацяпляльнага сезона. Паўторна нагадваем, што за парушэнні пры эксплуатацыі цеплаўстановак прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе накладання штрафу.

